Б І Б Л І О Т Э К А   Ш К О Л Ь Н І К А

ВІТАЛІ БІАНКІ

# ЛЯСНЫЯ ХАТКІ






БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1928



# ЛЯСНЫЯ ХАТКІ

Высока над рэчкай, над спадзістай кручай насіліся маладыя ластаўкі-паўзьбярэжкі.

Ганяліся адна за аднэю з віскам і ціўканьнем,—весела бавіліся.

Была ў іх чарадзе адна маленькая Паўзьбярэжка, такая спрытная: ніяк яе дагнаць нельга было,—ад усіх выкручваецца.

Пагоніцца за ёю якая ластаўка, а яна—туды, сюды,—уніз, уверх,—у бок кінецца, ды як пусьціцца ляцець—толькі крылкі мільгацяць.

Раптам,—адкуль ні вазьміся,—сакол-каршачок імчыцца. Вострыя, выгнутыя крыльлі так і сьвішчуць.



Ластаўкі перапалохаліся: усе—уроссып, хто куды,—у момант разьляцелася ўся чарада. А спрытная Паўзьбярэжка ад яго бяз вогзірку за рэчку, ды над лесам, ды цераз возера!

Надта-ж страшэнны быў сакол-каршачок.

Ляцела, ляцела Паўзьбярэжка,—зусім зьнясілілася.

Паглядзела назад: нікога ззаду няма.

Навакол аглядзелася: а месца зусім незнаёмае.

Паглядзела ўніз:—унізе рэчка цячэ.

Толькі не свая:—чужая нейкая.

Спалохалася Паўзьбярэжка.

Дарогу дадому яна ня памятала: дзе-ж было ёй памятаць, калі яна неслася бяз прытомнасьці ад сполаху?

А ўжо вечар быў,—ноч хутка.

Што тут рабіць?



Жудасна зрабілася маленькай Паўзьбярэжцы.

Паляцела яна ўніз, села на беразе і горка заплакала.

Раптам, бачыць: бяжыць каля яе па пяску маленькая жоўтая птушка з чорным гальштукам на шыі.

Паўзьбярэжка ўзрадвалася, пытаецца ў жоўтай птушкі:

— Скажэце, калі ласка, як мне дадому трапіць?

— А ты чыя?—пытае жоўтая птушка.

— Ня ведаю,—адказвае Паўзьбярэжка.

— Цяжка-ж будзе табе сваю хатку адшукаць!—кажа жоўтая птушка.—Хутка сонца зойдзе, цёмна зробіцца. Заставайся лепей у мяне начаваць. Мяне завуць Зуёк. А хата ў мяне вось тут:—побач.



Зуёк адбег некалькі крокаў і паказаў дзюбаю на пясок. Потым пачаў кланяцца, хістацца на цененькіх ножках і кажа:

— Вось яна, мая хатка. Заходзь!

Зірнула Паўзьбярэжка:—наўкола пясок ды аточак, а хаты ніякай няма.

— Няўжо ня бачыш?—зьдзівіўся Зуёк.— Вось сюды глядзі, дзе паміж каменьчыкамі яйкі ляжаць.

Ледзь-ледзь разгледзела Паўзьбярэжка:— чатыры яйкі з рудымі крапкамі ляжаць у радок проста на пяску сярод аточак.

— Ну, чаго-ж ты?—пытаецца Зуёк.— Ці-ж табе не падабаецца мая хата?

Паўзьбярэжка ня ведае, што і адказаць: скажаш, што хаты ў яго няма—яшчэ гаспадара абразіш. Вось яна яму і кажа:

— Не прызвычаілася я на чыстым паветры спаць, на голым пяску, бяз подсьцілкі...

— Шкада, што не прызвычаілася!—гаворыць Зуёк.—Тады ляці вунь у той яловы лясок. Спытай там голуба, якога завуць Віцюцень. Хата ў яго з падлогаю. У яго і начуй.

— Дзякую! —узрадвалася Паўзьбярэжка. І паляцела ў яловы лясок.

Там яна хутка адшукала ляснога голуба Віцюценя і папрасілася да яго начаваць.

— Начуй, калі табе мая хата падабаецца,— кажа Віцюцень.

А якая ў Віцюценя хата? Адна падлога, дый тая як рэшата уся ў дзірках. Проста пруточкі на галінкі накіданы як папала.

На пруточках белыя галубовы яйкі ляжаць. Зьнізу іх відаць: прасьвечваюць скрозь дзіравую падлогу.

Зьдзівілася Паўзьбярэжка.

— У вашай хаце, —кажа яна Віцюценю,— адна падлога, нават сьцен няма. Як-жа ў ёй спаць?



— Што-ж,—гаворыць Віцюцень, — калі табе патрэбна хата са сьценамі, дык ляці, адшукай Івалгу. У яе табе спадабаецца.

І Віцюцень растлумачыў Паўзьбярэжцы, як знайсьці хату Івалгі: —у гаі, на самай прыгожай бярозе.

Паляцела Паўзьбярэжка ў гай. А ў гаі бярозы адна аднае прыгажэйшыя.

Шукала, шукала хату Івалгі і вось, урэшце, убачыла: вісіць на бярозавай галінцы малюпаценькая, лёгкая хатка.

Такая выгодная хатка, і падобна да ружы, зробленай з ценкіх лісьцяў шэрай паперы.

— Якая-ж у Івалгі хатка маленькая!—падумала Паўзьбярэжка.—Нават я ў ёй не зьмяшчуся.

Толькі яна хацела пастукаць,—раптам, з шэрай хаткі вылецелі восы.

Закруціліся, загудзелі,—зараз уджгнуць!

Спалохалася Паўзьбярэжка і хутчэй паляцела далей.

Імчыцца сярод зялёнага лісьця. Вось нешта залатое і чорнае бліснула ў яе перад вачыма. Падляцела бліжэй, бачыць: на галінцы сядзіць залатая птушка з чорнымі крыльлямі.

— Куды ты сьпяшаешся?—гукае залатая птушка Паўзьбярэжцы.

— Хату Івалгі шукаю,—адказвае Паўзьбярэжка.

— Івалга—гэта я,—кажа залатая птушка.—А хата мая вось тутака, на гэтай прыгожай бярозе.

Паўзьбярэжка спынілася і паглядзела, куды Івалга ёй паказвае.

Спачатку яна нічога заўважыць не магла:—усё толькі зялёнае лісьце ды белыя бярозавыя галінкі.

А калі ўгледзелася, дык аж вохнула.



Высока над зямлёю да галінкі прычэплены лёгкі, плецены кошычак.

І бачыць Паўзьбярэжка, што гэта і сапраўды хатка. Хітра так зьвіта з пянькі і сьцяблінак, валаскоў і паўсьцінак і ценкай бярозавай скуркі.

— Ух! — кажа Паўзьбярэжка Івалзе, ні за вошта не застануся начаваць у гэтакай

зыбкай будоўлі! Яна зыбаецца,—і ў мяне ўсё перад вачыма верціцца, круціцца... Як бачыш яе на зямлю ветрам зьдзьмухне. Дый даху ў вас няма.

— Ляці да Будаўнічка,—кажа ёй пакрыўджаная залатая Івалга.—Калі табе боязка на сьвежым паветры спаць, дык табе, мабыць, спадабаецца ў яго салашы пад дахам.

Паляцела Паўзьбярэжка да Будаўнічка.

Жоўты маленькі Будаўнічок жыў у траве якраз пад тэй самай бярозай, дзе вісела паветраная калысачка Івалгі.

Паўзьбярэжцы вельмі спадабаўся яго салашык з сухое травы і моху.

— Вось дзе добра!—узрадвалася яна.—Тут і падлога, і сьцены, і дах, і ложак з мяккіх пер'яў! Зусім як у нас у хаце.

Ласкавы Будаўнічок пачаў яе ўкладваць спаць. Раптам зямля пад імі задрыжэла, загула.

Паўзьбярэжка спалохалася, прыслухоўваецца, а Будаўнічок ёй кажа:

— Гэта коні ў гай скачуць.

А вытрымае ваш дах,—пытае Паўзьбярэжка,—калі конь на яго капытам наступіць?



Будаўнічок толькі галавой сумна паківаў і нічога ёй на гэта не адказаў.

— Ой, як жудасна тут! сказала Паўзьбярэжка і ў момант выпырхнула з салаша. — Тут я ўсю ноч вачэй не зачыню: усё буду думаць, што мяне раздушаць. У нас у хаце бясьпечна: там ніхто на цябе не наступіць і на зямлю ня скіне.

— Дык, мабыць, у цябе такая хата, як у Чомгі,—здагадаўся Будаўнічок.- У яе хата не на дрэве—вецер яе ня зьдзьмухне, дый не на зямлі—ніхто не раздушыць. Хочаш, праводжу цябе туды?

— Хачу!—кажа Паўзьбярэжка.

Паляцелі яны да Чомгі.

Прыляцелі на возера і бачаць: пасярод вады на чаротавай высьпе сядзіць птушка з вялікаю галавою. На галаве ў птушкі пер'і старчма стаяць—быццам маленькія рогі.

Тут Будаўнічок з Паўзьбярэжкай разьвітаўся і наказаў ёй да гэтай рагатай птушкі начаваць прасіцца.

Паляцела Паўзьбярэжка і села на высьпе. Сядзіць і дзівіцца: выспа, аказваецца, плывучая. Плыве па возеры купа сухога чароту. Пасярод купы—ямінка, а дно ямінкі мяккай балотнай травою выслана. На траве ляжаць Чомгавы яйкі, якія прыкрыты лёгкімі сухімі чароцінкамі.

А сама Чомга рагатая сядзіць на высьпе з краюшку і разьяжджае на сваім судзенцы па ўсім возеры.

Паўзьбярэжка расказала Чомзе, як яна шукала і не магла знайсьці сабе начлегу, і папрасілася начаваць.

— А табе ня боязка будзе спаць на хвалях?—пытае яе Чомга.

— А ці-ж ваша хата ня прыстане на ноч да берагу?

— Мая хата не параход,—кажа Чомга,—куды вецер гоніць яе, туды яна і плыве. Так і будзем усю ноч на хвалях зыбацца.

— Боязка...—ледзь чутна прамовіла Паўзьбярэжка.—Дахаты хачу—да маткі...

Чомга раззлавалася:

— Вось,—кажа,—якая выбрэдная! Ніяк ёй не дагодзіш. Ляці ты лепш ды пашукай сама сабе хаты, якая табе падабаецца.

Выгнала Чомга Паўзьбярэжку,—тая і паляцела.

Ляціць і плача.

А ўжо і ноч надыходзіць: сонца зайшло, цямнееца.

Заляцела Паўзьбярэжка ў густы лес, бачыць: на высокай елцы, на тоўстай галіне пабудавана хата.

Уся з рагачча, з палак,—круглая,—а ў сярэдзіне мох тырчыць—цёплы, мяккі.

„Вось прыгожая хата,—думае яна,—моцная і з дахам“.

Падляцела маленькая Паўзьбярэжка да вялікай хаты, пастукала дзюбкай у сьценку і просіць жаласьлівым такім галаском:

— Пусьцеце, калі ласка, гаспадарыку, пераначаваць!

А з хаты раптам як вытыркнецца рудая морда страшнага зьвера з натапыранымі вусамі, з жоўтымі зубамі.

Ды як зарыкае страшыдла:

— З якога гэта часу птушкі ўначы стукаюць ды начаваць просяцца да вавёрак у хату?

Абамлела Паўзьбярэжка,—сэрца каменем зваліласа. Шаснула ў бок, узьвілася над лесам ды кулём—бяз возірку—наўцекі!

Ляцела, ляцела,—зусім зьнясілілася. Адвярнулася назад—нікога ззаду няма. Наўкола агледзелася—а месца знаёмае. Паглядзела ўніз—унізе рэчка цячэ, свая рэчка, родная.

Куляй кінулася ўніз да рэчкі, а адтуль—уверх, пад самую кручу спадзістага берага.



І зьнікла.

А ў кручы—дзіркі, дзіркі, дзіркі. Усё гэта—ластаўкіны норкі.

У адну з іх і шмыгнула Паўзьбярэжка. Шмыгнула, і пабегла па доўгім-доўгім, вузкім-вузкім калідоры.

Дабегла да яго канца — і ўскочыла ў прасторны круглы пакой.

Тут ужо даўно чакала яе матка.

Соладка спалася ў тую ноч зморанай маленькай Паўзьбярэжцы ў сябе на мяккай, цёплай пасьцелі з травінак, конскага воласу і пер'яў.



Дабранач!